**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№39(703) 26 верасня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**м. Германавічы. Вёска будзе жыць, калі ў ёй ёсць маладыя мамы.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*







## У Беларусі ўстаноўлена разліковая норма рабочага часу на 2014 год

**У Беларусі ўстаноўлена разліковая норма рабочага часу на 2014 год. Такое рашэнне змешчана ў пастанове Міністэрства працы і сацыяльнай абароны нумар 95, якая афіцыйна апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Так, устаноўлена разліковая норма рабочага часу на 2014 год пры поўнай норме яго працягласці для пяцідзённага рабочага тыдня з выхаднымі днямі ў суботу і нядзелю - не больш як 2015 гадзін, для шасцідзённага рабочага тыдня з выхадным днём у нядзелю - не больш як 2017 гадзін.

Як адзначыў начальнік упраўлення арганізацыі і матывацыі працы галоўнага ўпраўлення працы і заработнай платы Міністэрства працы і сацабароны Юрый Гарбацэвіч, разліковая норма рабочага часу ўстанаўліваецца штогод. «На яе аснове наймальнік вызначае працягласць рабочага часу, на працягу якога работнік абавязаны знаходзіцца на рабочым месцы, складае графік работы (зменнасці), а таксама кантралюе захаванне працягласці рабочага часу, устаноўленай Працоўным кодэксам», – растлумачыў ён.

Пастанова Мінпрацы і сацабароны ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання.

***Алена Прус - БЕЛТА***



## З-за сутыкнення са статкам кароў больш чым на гадзіну быў затрыманы рух пасажырскага цягніка № 26 «Мінск-Масква» ў Дубровенскім раёне

Сутыкненне адбылося на 495 км чыгуначнага перагону Асінаўка-Краснае каля вёскі Засценкі каля паўночы. На рэйках аказаўся статак са 164 кароў, якія належаць СВК «Рэдзькі», пішуць «Народныя навіны Віцебска».

У выніку здарэння загінулі 52 жывёлы, людзі не пацярпелі. Як паведамляе прэс-служба МНС, затрымка ў руху цягніка склала 1 гадзіну 1 хвіліну.







## Праезд падаражэе да 2500 рублёў меркавана з 1 кастрычніка

**Гэтую інфармацыю карэспандэнту FINANCE.TUT.BY пацвердзілі ў ГП «Мінсктранс».**

– У нашу кампетэнцыю не ўваходзіць пытанне павышэння тарыфаў. Цяпер дакумент знаходзіцца на разглядзе ў Мінэканомікі. Калі ён будзе падпісаны там і пойдзе ў Мінюст, праезд у Мінску ўзрасце да 2500 рублёў за адну паездку, – паведаміла намдырэктара прадпрыемства Ірына Якубоўская.

Яна выказала надзею, што дакумент паспее прайсці ўзгадненне да канца месяца, і з 1 кастрычніка ў сталіцы будзе ўсталяваны новы кошт праезду. Асноўная прычына змены тарыфаў – рост коштаў на паліва.

– Паліва падаражэла на 10%, – дадала Ірына Уладзіміраўна. – Тут, самі разумееце, ці везці, ці не везці.

Нагадаем, на мінулым тыдні чуткі пра падаражэнне праезду абмяркоўвалі некаторыя кандуктары «Мінсктанса», аднак, афіцыйна гэтую інфармацыю не пацвердзілі.

Апошні раз праезд у сталіцы даражэў 25 траўня на 17,5% – да 2 тысяч рублёў. На той момант павялічваць тарыфы на праезд у грамадскім транспарце Мінска да канца бягучага года не планавалася.

Гарадоцкі раён

# Пачалі з плошчы

■ Станіслаў Раманчук

**У трэці раз Віцебшчыне ўслед за Полацкам і Оршай прадаставілі права правесці ў 2014 годзе рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі".**

Кіраўніцтва вобласці выбрала месцам для правядзення гэтага фэсту Гарадоцкі раён, па плошчы адзін з самых вялікіх у краіне. Аднак апошнім часам і гэты маляўнічы край моцна абязлюдзеў, у рэгіёне засталося крыху больш 24 тысяч жыхароў, з якіх палову жывуць у самім райцэнтры. Тут ужо пачаліся работы па падрыхтоўцы да "Дажынак" па распрацаваным плане з укладаннем у абнаўленне інфраструктуры Гарадка амаль 2,5 трлн. рублёў. Найперш пачалі працу са змянення аблічча галоўнай плошчы горада, з якой будзе прыбраны ў іншае месца звыклы беларусам помнік Леніну. Жыхары райцэнтра найперш чакаюць узвядзення спартыўнага комплексу з плавальным басейнам паблізу дзеючай гасцініцы "Раўбічы". Таксама ў райцэнтры для моладзі абуладкуюць лыжаролерную трасу вакол Вараб'ёвых гор. У астатнім праца па абнаўленні сталіцы "Дажынак-2014" вядзецца па адпрацаванай схеме, бо пройдзе рэканструкцыя і асвяжэнне фасадаў Дома культуры і цэнтра рамёстваў, музея, кінатэатра і іншых аб'ектаў сацыяльнай сферы. А вось у сельскай гаспадарцы краю праблем безліч. Калісьці тут апрацоўвалі 73 тысячы гектараў сельгасугоддзяў, зараз толькі 28. Многія не бачаць на радзіме перспектыў і выязджаюць у блізляжачы абласны цэнтр Віцебск і ўсё часцей на заробкі на прасторы Расіі.

Ушацкі раён

# Прыйшоў час маладых

■ Чэслаў Якубовіч

**З мноствам цяжкасцей паўсядзённа сутыкаюцца кіраўнікі розных рангаў у глыбінцы, і тут усё часцей адбываецца ратацыя кадраў.**

Вось і ва Ушацкім раёне днямі на пазачарговай сесіі райсавета дэпутатаў аднагалосна зацвердзілі на пасадзе старшыні райвыканкама новага главу рэгіёна, ураджэнца Оршы Віктара Родзіча. Ён стаў, дарэчы, ва ўзросце 32 гады самым маладым кіраўніком такога ўзроўню ў Беларусі, а спачатку закончыў ветакадэмію ў Віцебску. Потым новы кіраўнік даволі складанага, хоць і вельмі прыгожага, раёна атрымаў дыплом прэзідэнцкай Акадэміі кіравання, набыў вопыт вытворчай і кіруючай дзейнасці. На прайшоўшай сесіі дэпутаты шчыра падзякавалі за працу папярэдняга кіраўніка Ушаччыны Алега Каваленку. Пры ім папрыгажэў і быў газіфікаваны райцэнтр, запрацавала сучасная лінія па разліве мінеральных вод, абнавілася абсталяванне ў райбальніцы, заасфальтавалі шэраг дарог. Але, як бы ні стараўся кіраўнік раёна са сваёй камандай, перад мясцовым кіраўніцтвам паўстае нямала глабальных праблем. А галоўнае, што ў глыбінцы імкліва менее людзей, смяротнасць насельніцтва сёлета ў 2,5 разы перавысіла нараджальнасць. Паўсюдна існуе праблема рабочых рук, якіх стала не хапаць у розных сферах. На гэтым фоне раён стаў "лідарам" у Прыдзвінні, бо ўжо сотні гектараў заняў паразіт баршчэўнік Сасноўскага. Сціплыя і вынікі працы на зямлі, раён стаў глыбока датацыйным і новаму маладому главе рэгіёна прыйдзецца прыкласці вялікія намаганні, каб жыццё людзей хоць крыху палепшылася ў станоўчы бок.

Пастаўскі раён

# Фінансаў не хапае

■ Кастусь Александровіч

**Ужо гадамі вядуцца размовы аб адраджэнні айчыннага льнаводства, але справы ў гэтай галіне АПК разгортваюцца далёка не так, як бы хацелася.**

Яшчэ летась радаваліся на льнозаводзе ў Паставах, што іх прадпрыемства ўключылі ў адпаведную рэспубліканскую праграму па тэхпераўзбраенні і маштабнай рэканструкцыі. З дапамогай дзяржкрэдыту ўдалося набыць і высокапрадукцыйную сучасную бельгійскую лінію па выпуску доўгага валакна. Актыўна прыступілі будаўнікі з Наваполацка і да ўзвядзення новага вытворчага корпуса разам з новай кацельняй і лабараторыяй. Аднак, як гэта ў нас бывае, нешта не атрымалася з планаваннем і ўзвядзенне практычна новага завода побач са старым замарозілася. Завадчанам для прадаўжэння работ неабходна атрымаць яшчэ каля 100 млрд. рублёў крэдытных паступленняў, а вось з гэтым як раз і ўзніклі праблемы. Пытанне застаецца ў падвешаным стане, пацярпеў сур'ёзна і будтрэст, які заняўся праблемным аб'ектам. Магчыма, у будучым сродкі на новы льнозавод знойдуцца, а каб ён запрацаваў на поўную магутнасць, прадпрыемству неабходна разы ў два павялічыць у раёне пасяўныя плошчы пад даўгунец з цяперашніх 1400 гектараў. Сёлета завадчане справіліся з уборкай лёну, яны адны з лідараў у краіне па паглыбленай перапрацоўцы сыравіны і адгружаюць таксама экалагічныя кастрабрыкеты для ацяплення жылля ў суседнюю Літву.

# Аб самым надзённым

## НЕГАТЫЎНЫЯ З'ЯВЫ Ў АЙЧЫННАЙ ЭКАНОМІЦЫ СТАВЯЦЬ ПАД ПАГРОЗУ ВЫКАНАННЕ ПРАГНОЗНЫХ ПАРАМЕТРАЎ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСІ 2013 ГОДА



■ Аляксандр Цішкевіч

**У многіх вытворцаў, асабліва ў глыбінцы, проста няма грошай на сваё тэхпераўзбраенне. У выніку, як і чакалася, за 7 месяцаў з пачатку года рост ВУП Беларусі вырас толькі на 1,4 %. Нагадаем, што дырэктыўныя заданні былі ў разы большыя.**

Яшчэ да нядаўняга абвастрэння расійска-беларускіх адносін перад калійным скандалам і гучным арыштам было многім відавочна, што беларускую эканоміку сёлета зноў напаткалі праблемы з яе здароўем. У паўсядзённым жыцці людзям пра гэта нагадвала перыядычнае павышэнне цэн з пачатку 2013 года. А вось спецыялістам многае стала зразумела, калі прайшло чарговае пасяджэнне Саўміна Беларусі пра бягучую абстаноўку і пра пытанні эканамічнага развіцця краіны ў будучым годзе. А вось пра вынікі такога абмеркавання грамадскасці нічога не паведамілі.

З гэтай нагоды толькі прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч коратка выказаўся, што ўжо не першы раз абмяркоўваліся пытанні, аб тым, як будзе жыць і працаваць Беларусь у будучым годзе, якія задачы па росце ВУП давядзецца вырашаць. Між тым, хутчэй усяго, сёлета няма чаму радавацца, справы ідуць зусім не так, як бы хацелася кіраўніцтву ўрада РБ. Наша дзяржава невыпадкова папрасіла чарговы новы крэдыт у Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, ужо шосты

У пачатку восені курс долара пераадолеў сімвалічны рубеж 9 тысяч рублёў. І хоць панікі ў абменніках не было, многія эксперты, асабліва расійскія, загаварылі, што беларусы зноў стаяць на парозе новага фінансавага крызісу і чарговай дэвальвацыі сваёй нацыянальнай валюты. Да канца кастрычніка толькі па лініі МВФ нам прыйдзецца заплаціць яшчэ 400 млн. доляраў па ранейшых займах, золатавалютныя рэзервы, зразумела, зменшацца. У той самы час беларускі экспарт тавараў у першым паўгоддзі зменшыўся на 24 % у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

І гэта далёка не апошнія эканамічныя цяжкасці. У пачатку жніўня, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, запасы гатовай непрададзенай прадукцыі перавысілі 3,3 млрд. USD і дасягнулі 74,4 % да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. Працягвалася другі год зніжацца прамысловая вытворчасць, а адмоўнае сальда знешняга гандлю дасягнула 1,7 млрд. доляраў, калі летась яно было станоўчым ( 1,92 мільярда). Больш чым на чвэрць знізіўся за гэты перыяд прыбытак беларускіх прадпрыемстваў і не дзіўна, што пры недахопе замежных інвестыцый, правальваецца аб'яўленая маштабная праграма мадэрнізацыі.

У многіх вытворцаў, асабліва ў глыбінцы, проста няма грошай на сваё тэхпераўзбраенне. У выніку, як і чакалася, за 7 месяцаў з пачатку года рост ВУП Беларусі вырас толькі на 1,4 %. Нагадаем, што дырэктыўныя заданні былі ў разы большыя. На двары між тым, як гаворыцца, трэці і рашаючы год чарговай пяцігодкі і выкананне амбіцыёзных задач апошняга Усебеларускага сходу па-сутнасці правальваецца, а беларусы сталі працаваць у асноўным на склад.

Развал Беларускай калійнай кампаніі толькі пагоршыў даволі змрочны малюнак. Яшчэ да калійнага канфлікту з Масквой назіралася падзенне попыту на нашы тавары за мяжой і асабліва на расійскіх прасторах (туды ідзе 42,5 % беларускага экспарту). Верагодна, у пэўнай разгубленасці члены Саўміна і перад урадам паўстала перспектыва навогул адстаўкі. У сваю чаргу чаго чакаць нам, простым грамадзянам. Як ні горка, а штосьці светлыя гарызонты не прагляжваюцца.

Прыйдзецца беларусам жыць па сродках, рыхтавацца да далейшага росту цэн і іншых непрыемных сюрпрызаў, якіх было столькі раней. Гэта ж вам не жартачкі, што за 5 апошніх гадоў нацыянальная валюта аслабела больш чым у 4 разы, а па шалёнай інфляцыі мы сталі сусветнымі антырэкардсменамі. У дадатак да гэтых катаклізмаў у гэтым годзе парушыўся спрадвечны уклад жыцця многіх вяскоўцаў, якія з-за афрыканскай чумы свіней вымушаны былі пазбавіцца ад свінапагалоўя на сваіх панадворках.

Праўда, паабяцалі людзям разлічыцца з імі за знішчаных свіней і таксама дапамагчы набыць далей гадаваць замест іх цялят, кароў, авечак альбо на худы канец птушак. І з зернем новага ўраджаю здарыўся недабор з-за доўгай зімы, ураджайнасць аказалася па краіне меншай на 6 цэнтнераў з гектара, чым летась. Валавы рэгіянальны прадукт знізілі ўсе вобласці і сталіца Мінск. Таму незразумела, што будзе далей, калі станем рэальна лепей жыць, паколькі хоць зарплата быццам расла, але штосьці ў паўсядзённым жыцці гэта мала адчувалася.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 26.09.13 | | | | Пятніца 27.09.13 | | | | Субота 28.09.13 | | | | Нядзеля 29.09.13 | | | | Пнд.30.09.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +3 | +8 | +4 | +3 | +4 | +7 | +6 | +5 | +5 | +8 | +6 | +2 | +4 | +8 | +6 | +3 | +3 | +8 |
| Ціск | 743 | 743 | 742 | 742 | 741 | 740 | 741 | 741 | 741 | 740 | 742 | 745 | 746 | 747 | 747 | 748 | 748 | 748 | 748 |
| Вільготнасць | 97 | 88 | 58 | 90 | 90 | 94 | 80 | 94 | 99 | 97 | 83 | 90 | 93 | 89 | 77 | 95 | 100 | 95 | 61 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 4 З | 4 З | 2 Пд-З | 3 З | 7 Пн-З | 6 Пн-З | 3 Пн-З | 3 З | 5 З | 2 Пн-У | 2 Пн | 2 Пн-З | 3 З | 6 З | 1 З | 1 Пн-З | 2 З | 2 З |

## Дзень за днём

**Пададзеных Белстата, стратныя ўжо 15% беларускіх прадпрыемстваў, больш 8 % бударганізацый, 10,4 % арганізацый транспарту і толькі 8,8 % гаспадарак (734 калгасы). Афіцыйны курс долара пераадолеў бар'ер 9 тысяч, а яшчэ 15 жніўня 2008 года ён складаў 2111 рублёў. Аб магчымай дэвальвацыі нацвалюты загаварылі не толькі эксперты, але і ўлада. З новага года пенсіі беларусам будуць выдаваць пры ўмове абавязковых выплат страхавых узносаў на працягу 10 гадоў. А. Лукашэнка прапанаваў увесці пошліну для грамадзян, якія выязджаюць за граніцу. У Беларусі доўгабудам сталі 4,5 млн. кв. метраў жылля, больш паловы такіх незавершаных жылых дамоў у сталіцы і ў Мінскай вобласці.**

# Важнейшыя навіны свету

**Чылі**. Нацыянальная асацыяцыя суддзяў прынесла прабачэнні народу за сваю дзейнасць падчас праўлення ваеннай хунты пасля перавароту 1973 г., тады забілі больш 3 тысяч.

**Швецыя.** Першай у ЕС краіна аб'явіла, што прадаставіць права на пастаяннае пражыванне ўсім 8 тысячам бежанцам з Сірыі, ужо больш 2 млн. сірыйцаў уцяклі ад вайны за мяжу.

**Польшча.** Глава МЗС Р. Сікорскі назваў Расію адказнай за хімічныя арсеналы Б. Асада, але ваеннае ўмяшанне Захаду не спыніць шматлікія злачынствы яго рэжыму ў Сірыі.

**Чэхія.** На 25-26 кастрычніка прэзідэнт Мілаш Земан прызначыў датэрміновыя выбары ніжняй палаты парламента і распусціў яе пасля вынясення вотуму недаверу ўраду.

**Расія.** Намміністра фінансаў РФ С. Сторчак пацвердзіў, што арышт гендырэктара "Уралкалія" не адаб'ецца на рашэнне аб выдзяленні Беларусі новага крэдыта ЕўрАзЭС.

**Грэцыя.** Ва ўрадзе пацвердзілі, што ў бліжэйшыя 8 месяцаў яшчэ 12,5 тысяч чыноўнікаў у сферах адукацыі, самакіравання краю, абароны і ўнутраных спраў будуць звольнены.

**Літва.** Глава МЗС Л. Лінкявічус заявіў, што калі Арменія далучыцца да Мытнага саюза, то яна не можа разлічваць на падпісанне дамовы з Еўрасаюзам.

**Японія.** Урад краіны вырашыў інвеставаць 473 млн. долараў на пабудову падземнай ледзяной сцяны вакол ядзерных рэактараў АЭС "Фукусіма-1", пашкоджанай цунамі.

**Венесуэла.** З-за аварый на асноўных ЛЭП былі абясточаны 9 штатаў і сталіца Каракас, палова краіны засталася без святу, прэзідэнт Мадура абвінаваціў у гэтым зноў апазіцыю.

**Эквадор**. Улады выдалі Расіі, беларуса, былога капітана пагранвойск А. Аўчарэнку, які абвінавачваецца ў ашуканстве банка ў Маскве ў асабліва буйным памеры.

**Расія.** З-за канфлікту з "Уралкаліем" гендырэктар КАМАЗа С. Кагогін адмовіўся ехаць у Беларусь на рашаючыя перамовы аб аб'яднанні з МАЗам у холдынг "Расбелаўта".

**Карэя.** Кампанія Samsung пачала выпуск навейшых у свеце фотакамер пад кіраваннем аперацыйнай сістэмы Android, 4-ядзерным працэсарам, здымкамі да 8 кадраў у секунду.

**Англія.** Выдавецтва Horper Collins аб'явіла, што праз год надрукуе новы раман брытанскай пісьменніцы Сафі Хана пра сусветна вядомага сышчыка Эркюля Пуаро.

**Літва.** З друку ў Вільні выйшаў новы беларускамоўны варыянт кнігі мемуараў С. Шушкевіча "Маё жыццё, крах і ўваскрасенне СССР", яе надрукавалі ў Маскве.

**Японія.** Пасля выбрання зноў Токіо сталіцай летніх Алімпійскіх гульняў 2020 года японцы паабяцалі здзівіць свет кампактнымі спортзбудаваннямі XXII стагоддзя.

# Супрацоўнікам міліцыі і ваеннаслужачым унутраных войскаў МУС Беларусі забаронена курэнне ў форменнай вопратцы



■ паводле БЕЛТА

**Адміністрацыйныя будынкі органаў унутраных спраў, злучэнняў і воінскіх часцей унутраных войскаў МУС Беларусі аб'яўляюцца свабоднымі ад курэння зонамі, а супрацоўнікам міліцыі і вайскоўцам унутраных войскаў забараняецца курэнне ў форменнай вопратцы.**

Гэта прадугледжана загадам МУС № 424 «Аб папулярызацыі здаровага ладу жыцця сярод супрацоўнікаў і грамадзянскага персаналу органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, вайскоўцаў і грамадзянскага персаналу ўнутраных войскаў Міністэрства унутраных спраў Рэспублікі Беларусь» ад 13 верасня 2013 года, паведамілі БЕЛТА ў Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі.

Міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч на штомесячнай працоўнай нарадзе пры пастаноўцы задач кіруючаму складу службаў і падраздзяленняў цэнтральнага апарата і цэнтральнага падпарадкавання міністэрства акцэнтаваў увагу на тым, што захаванне здароўя з гэтага часу лічыцца адным з найбольш важных напрамкаў дзейнасці начальнікаў і камандзіраў усіх узроўняў, а 2014-ы аб'яўляецца годам здаровага ладу жыцця ў органах унутраных спраў і ўнутраных войсках.

Новы загад гранічна канкрэтызуе гэтую барацьбу. У прыватнасці, асобным блокам пастаўленыя мерапрыемствы антытытунёвай кампаніі: адміністрацыйныя будынкі АУС, злучэнняў і воінскіх часцей унутраных войскаў, прылеглыя да іх тэрыторыі лічацца зонамі; супрацоўнікам і вайскоўцам варта адмовіцца ад спажывання тытунёвых вырабаў у форменнай вопратцы. Парушальнікі гэтых патрабаванняў могуць прыцягвацца да дысцыплінарнай ці адміністрацыйнай адказнасці.

З моманту падпісання загаду МУС № 424 пры атэстацыі супрацоўнікаў, фарміраванні рэзерву кіруючых кадраў і прыёме на службу важным крытэрыем ацэнкі дзелавых і асобасных якасцяў будзе лічыцца падтрыманне і прапаганда здаровага ладу жыцця, стрэсаўстойлівасць, адсутнасць прыкмет эмацыйнага выгарання. На сайтах міністэрства і рэгіянальных упраўленняў, у ведамаснай прэсе пры садзейнічанні спецыялістаў-медыкаў атрымаюць далейшае развіццё тэмы прапаганды здароўя. Кадры будуць забяспечаны метадычнай, даведачнай і навуковай літаратурай.

«Міністр унутраных спраў патрабуе веданне загаду № 424 ад кожнага супрацоўніка і вайскоўца, а тым больш - ад кіраўніка і камандзіра. Да энтузіястаў і прапагандыстаў здаровага ладу жыцця ў службовых і воінскіх калектывах будуць прымяняцца меры матэрыяльнага і маральнага заахвочвання, а ўжо парушальнікі, як водзіцца, адкажуць па ўсёй строгасці», - падкрэслілі ў МУС.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Следчы камітэт затрымаў 4-х кіраўнікоў бударганізацый, якія ўзводзілі сабе катэджы за кошт будматэрыялаў, прызначаных для ўзвядзення "Чыжоўка-Арэны".

**Брэст.** Два прадпрыемствы горада - трыкатажная фірма "Элма" і швейная "Надзея" пастановай урада РБ выключаны са складу канцэрна "Беллегпрам", яны будуць самі па сабе.

**Крычаў.** Мясцовы ААТ "Крычаўцэментшыфер" разам з яшчэ двума цэментнымі заводамі ўвойдзе ў новы холдынг "Беларуская цэментная карпарацыя" ў 2014 годзе.

**Мінск.** Многім іншагароднім студэнтам стала праблематычна знайсці здымнае жыллё, бо прапаноў мала, а за пакой мінчане сталі патрабаваць ужо па 200 USD з чалавека.

**Жлобін.** Да "Дажынак" у вёсцы Лебядзеўка ў 2,5 км ад горада знеслі пасяленне цыган, каля 30 чалавек пакінулі без даху над галавой, бо іх хаты былі бачныя з трасы на Гомель.

**Гродна.** У прыгараднай вёсцы Дзевятоўка, у якой 30 год назад здымалі знакамітую кінакамедыю "Белыя росы", знеслі яшчэ 11 сялянскіх хат для новай гарадской вуліцы.

**Хоцімск.** У вельмі цяжкім стане даставілі ў рэанімацыю райбальніцы 35-гадовага работніка калгаса "Бабулін падворак", на яго наехаў камбайн без людзей падчас рамонту.

**Шклоў.** Многія жыхары раёна і суседніх Горацкага, Круглянскага, Мсціслаўскага панеслі страты ад вымушанага забою з-за АЧС сваіх недакормленых свіней вагой 60-75 кг.

**Мінск.** Кампанія МТС атрымала ад кампаніі Huawei эксклюзіўныя правы на рэалізацыю ў Беларусі аднаго з самых тонкіх у свеце смартфонаў мадэлі Ascend P6 у сваіх салонах.

**Печы.** Малады 18-гадовы салдат тэрміновай службы нечакана памёр раніцай у адной з часцей вучэбнага цэнтра ля Барысава, па факце яго гібелі пачалося расследванне.

**Смалявічы.** Каб паставіць помнік на Маскоўскіх могілках сталіцы па забітым летась мужу, народным артысце Беларусі Якаву Навуменку, яго ўдава прадала машыну.

**Гродна.** Абласны тэатр лялек атрымаў Гран-пры міжнароднага тэатральнага фестывалю Vasara "Класіка і XXI стагоддзе" ў Літве за свой лепшы спектакль "Пікавая дама".

**Мінск.** З бюджэтам на сезон 8,8 млн. долараў ХК "Дынама" сярод 28 клубаў КХЛ па заробках хакеістаў заняло 23-е месца, самы багаты - піцерскі СКА (38,5 млн. USD).

**Быхаў.** На падрыхтоўку горада да юбілейнага, XX Дня беларускага пісьменства з дзяржбюджэту пайшло 200 млрд. рублёў, рэстаурацыя замка тут будзе ісці да 2018 года.

**Мінск.** Больш 90 унікальных абразоў XV-пачатку XIX стагоддзя сабраў Нацыянальны мастацкі музей на міжнароднай выставе выяў Езуса Хрыста з краін Усходняй Еўропы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** ААТ "Нафтан", як аднаму з самых высокарэнтабельных прадпрыемстваў краіны, зноў загадалі пералічыць частку прыбытку ў Фонд нацыянальнага развіцця.

**Полацк.** На мясцовым філіяле кандытарскага камбіната "Віцьба" на закупленым нямецкім абсталяванні пачалі выпускаць унікальныя ў Беларусі вафельныя трубачкі з начынкай.

**Віцебск.** Калектыў ААТ "Віцебскі аблгарсервіс" стаў самым праблемным і буйнейшым даўжніком бюджэту (болей 55 мільярдаў рублёў), на яго долю выпадае каля 70 % усіх даўгоў.

**Ушачы.** Каля тысячы галоў свіней прыйшлося людзям зарэзаць паблізу свінакомплексу "Арэхаўна" з-за афрыканскай чумы, за нетаварных жывёл вяскоўцам не прадугледжана кампенсацыя.

**Верхнядзвінск.** На замену знішчаным поўнасцю з-за афрыканскай чумы свіней ААТ "Прудзінкі" ўсім жадаючым вяскоўцам стаў прадаваць цялят у растэрміноўку альбо ў кошт зарплаты.

**Дуброўна.** Малады ўрач, нарколаг-псіхіятр, які стаў працаваць у райбальніцы, адразу атрымаў кватэру, яшчэ дзесяці маладым спецыялістам выдзелілі месцы ў інтэрнаце.

**Б а г у ш э ў с к .** Сапраўдным салонам прыгажосці стала ў гарпасёлку новая прыватная цырульня з міні-пральняй і крамай касметыкі, якую стварыла сям'я Бегуновых.

**Паставы.** У Казлоўшчынскай СШ не ўзялі на вучобу дзяцей у 10 клас, бо ў будучым годзе яе рэарганізуюць у базавую школу, Янкішская БШ ужо стала пачатковай школай.

**Дуброўна.** Раён атрымаў яшчэ адзін школьны аўтобус для падвозу вучняў, парк такой тэхнікі на Віцебшчыне дасягнуў 204 машыны і павялічыўся сёлета на 30 аўтобусаў.

**Докшыцы.** У перабудаваным памяшканні ў вёсцы Беразіно адкрылі царкву Св. Духа, у Барсуках з'явілася каталіцкая капліца, на могілках райцэнтра сталі ўзводзіць часоўню.

**Віцебск.** У мясцовым медыцынскім універсітэце не змаглі засяліць у інтэрнат ніводнага студэнта-першакурсніка, у чарзе на засяленне 1700 чалавек, інтэрнат пачнуць узводзіць у 2014 годзе.

**В е р х н я д з в і н с к .** Літаратар з райцэнтра Васіль Руды стаў адным з пераможцаў штогадовага Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор 2012 г. за зборнік прозы "Триптих любви".

**Браслаў.** Міліцыя затрымала 19-гадовага непрацуючага жыхара аграгарадка Дрысвяты, які падчас спрэчкі на падпітку збіў да смерці 39-гадовага мінчаніна ў яго дачным доме.

**Сянно.** У сярэднім у 22 мільёны рублёў выйдзе кожнаму са 170 уладальнікаў дамоў газавага кааператыва падключэнне да новай сеткі вулічнага газапровада ў гарпасёлку Багушэўск.

**Віцебск.** Каманда "Вітэн" выдатна дэбютавала ў Швецыі ў розыгрышы Кубка УЕФА па міні-футболе і прабілася ў асноўны раўнд турніру, які пачнецца ў кастрычніку ў Латвіі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Прэм'ера фільма

# «Праклятыя і забытыя»

**Белсат. Субота, 28 верасня а 21:15. Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя».**



Падчас здымкаў фільма «Праклятыя і забытыя». Вёска Верацеі (Пастаўскі р-н). Апавядае Ксенія Даламанава, аднакласніца Яўгена Жыхара. *Фота Ул. Скрабатуна.*

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Белсат зняў стужку пра Беларускі дэсантны батальён «Дальвіц».**

28 верасня на тэлеканале «Белсат» адбудзецца прэм'ера новага фільма Антося Цялежнікава «Праклятыя і забытыя», прысвечанага беларусам, якія ў канцы вайны і ў першыя пасляваенныя гады спрабавалі разгарнуць антысавецкае падполле.

Фільм «Праклятыя і забытыя» прысвечаны дзеячам малавядомай Беларускай Незалежніцкай Партыі, што прайшлі падрыхтоўку ў нямецкай дыверсійнай школе ля мястэчка Дальвіц ва Усходняй Прусіі. На гэтую тэму ў Беларусі дагэтуль накладзены грыф сакрэтнасці, большасць матэрыялаў — у закрытых архівах КДБ. Але цягам году аўтарам фільма атрымалася знайсці шэраг дакументаў у суседніх краінах, а таксама паразмаўляць са сведкамі тых падзеяў.

Некаторыя эпізоды фільма будуць прысвечаны легендарнаму беларускаму антысавецкаму партызану Яўгену Жыхару, які ў 1946-55 гадах ваяваў супраць Саветаў на тэрыторыі сучасных Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў.

Здымкі фільма адбываліся ў Глыбокім, Дзеркаўшчыне, Квачах, Сокалаве, Верхнім, на Пастаўшчыне – у Верацеях і Карповічах каля Лучая, а таксама ў іншых месцах Беларусі.

Год 1947-ы, вёска Сокалава пад Глыбокім. Вясковае



**Іван Адамовіч, жыхар вёскі Дзеркаўшчына, быў асуджаны за «неданасіцельства» на Яўгена Жыхара. Як няпоўнагадовага асудзілі да 6 гадоў зняволення, маці – да 25 гадоў, сястру – да 25,5 года, другую сястру да – 10 гадоў.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

вяселле. Раптам з'яўляюцца тры чалавекі ў плашчах, з-пад крыса тырчаць рулі аўтаматаў ППШ. – Камсамольцы ёсць?– пытае адзін з іх. Нехта з хлопцаў хацеў задзерціся, але сябра прыціснуў яму нагу: «Маўчы, гэта – Жыхар!»

Усё вяселле пашыхтавалі і павялі «на рэгістрацыю шлюбу» ў Верхняе, дзе быў сельсавет. На выхадзе з вёскі Жыхар гучна свіснуў. З розных бакоў пачуліся свісты ў адказ. Дадзена было зразумець – вёска ў аблозе.

– Адчыняй дзверы,– загадвае Жыхар супрацоўніцы сельсавета, якая прыйшла разам з вяселлем.

– Ой, ключы дома забылася!

– Ах, забылася!–кажа Жыхар,– у мяне ёсць чым адчыніць! Дастае гранату.

– Знайшліся, знайшліся ключы!

– Адчыняй сейф! – загадвае Жыхар. – Выносьце ўсе паперы на вуліцу!

– Зрывай са сцяны Сталіна!– загадвае Жыхар аднаму з маладзёнаў.

– Не буду!

– Зрывай! І Жыхар сцебануў пугай.

Хлапец зрывае партрэт Сталіна і рве яго ў шматкі!

У двары гарэлі паперы Вярхнянскага сельсавета. Усе прысутныя: нявеста і жаніх, запрошаныя на вяселле, сельсаветчыкі, вадзілі вакол вогнішча карагод і гучна крычалі: «Смерць – Сталіну!»

Жыхар бярэ тэлефонную трубку, набірае нумар глыбоцкай міліцыі: «Жыхар – у Верхнім! Прыязджайце!»

Ніхто не прыехаў! Ды й сэнс? Жыхараўцы добра падрыхтаваліся, выкапалі пры ўздзе ў Сокалава акопы, зрабілі засаду. Чакалі міліцыянтаў з Глыбокага.

Дарэчы, Жыхар адпусціў дадому ўсіх, нікога не пакараўшы...

Гэта – не пераказ фільма. Рэальная гісторыя, якую апавёў адзін з вяскароў вёскі Сокалава ў мінулым годзе здымачнай групе Белсату.

Засталося паглядзець, як у фільме гэты эпізод сыграюць артысты.



Марыя Баравік, сябра СБП, *г.п. Падсвілле.*

# Сонечны верасень, кветкі і Празароцкая школа

**Яшчэ ў траўні я напрасілася ў Празароцкую школу для сустрэчы з вучнямі, каб пазнаёміць іх са сваёй творчасцю. Мне хацелася прэзентаваць сваю дзіцячую кніжку "Ціт". Але была фінішная навучальная пара, і мы дамовіліся на восень.**

Я ўжо і не спадзявалася на сустрэчу. А яна сталася такой светлай хвілінай у верасьнёўскім сонцы, квецені і ў роднамоўнай душэўнай сувязі.

– Прыедзем па кветкі да падсвільскай жанчыны і вас прыхопім. І назад адвязем,- раздаўся ветлівы тэлезванок Валянціны Раманаўны Баранчук, якая кіруе выхаваўчай працай у школе.

Святочны дзень жыцця: едзем з дачкой (два сябры суполкі ТБМ) у школьным мікрааўтобусе, напоўненым хрызантэмамі. Вядзем ахвотлівую гутарку са спадарыняй Валянцінай.

– Вы ўбачыце школу, абяцаю экскурсію. Яна ж у нас сёння вельмі прыгожая.

Я кажу спадарыне Валянціне, што некалі (яшчэ, мабыць, у старой школе) пачынала свой педагагічны шлях мая незабыўная настаўніца рускай літаратуры – Людміла Яўгенаўна Далецкая і яе муж – Міхаіл Нікіфаравіч. Яны менавіта тут сустрэліся і пажаніліся. І я яшчэ ў маладосці чытала тут свае вершы вучням. Была і на плошчы падчас адкрыцця помніка Буйніцкаму. А свята пісьменства ў Празароках прапусціла.

І вось – школа. Адразу зразумела, дзе будуць працягваць жыццё прывезеныя хрызантэмы. "Сад адпачынку", - кажа дэкаратыўная брамка. Зяяюць





кветкі гваздзіковай пароды.

– Гэтыя пасадзім з таго вунь боку – дапоўнім "Сад", – кажа Валянціна Раманаўна.

"Сонца, кветкі і Празароцкая школа",– так запамінальна высвецілася субота 7-га верасня.

Зала ўтрымлівае ранішняе сонца і беларускую аўру. Бачым выставу, прымеркаваную да сустрэчы: "Слова роднае – святое, незабыўнае". Тут і прагучалі мае сціплыя словы, выбраныя творы і песня пад гітару дачкі Марыйкі (Марыі Новікавай), і ўзаемнасустрэчнае прывітанне вучняў: Алёны Булах, Каці Мацііеўскай, Алены Парфяновіч і песня (мяккі, ласкавы голас) Аніты Гугуновай, якая працуе ў мясцовым ДК. Слухалі вучні 2-іх-11-ых класаў і настаўнікі пачатковых класаў, рускай мовы, гісторыі, англійскай мовы, матэматыкі, бібліятэкар – спадарыня Аліна.

– Пакажу вам школу, пайшлі,– сказала Валянціна Раманаўна. Яна – "беларусістка", але працавала ў пачатковых класах. Сёлета даручылі весці беларускую мову. Чалавек дзейны, зацікаўлены сваёй працай. Свеціцца гэта з вачэй і слова. І калі яна праводзіла нас па ўсіх школьных пакоях, дзе адлюстравана думка школьнага кіраўніцтва і творчасці настаўнікаў, вельмі шчыра, дбайна, годна імкнулася паказаць плён школы. Школа беларуская. Яна ганарыцца сваімі асветнымі і культурнымі здабыткамі.. Школа, пад таленавітым кіраўніцтвам Вольгі Дзмітрыеўны Гінько і працалюбівым калектывам былых і цяперашніх настаўнікаў, мае выразную адметнасць.

– Вольга Дзмітрыеўна – творчы кіраўнік, – абгрунтоўвае экскурсійны паказ спадарыня Валянціна, – ёй сёлета ўручана медаль Францішка Скарыны.

Наш экскурсавод пазначае ўвагай школьных асветнікаў і майстроў. Асабліва спыняецца на музеі Ігната Буйніцкага. Распавядае пра дапамогу школе – экспазіцыйную працу дызайнера Ігара Куржалава пры стварэнні музея.

Нашы ўражанні квітнеюць ў школьных пакоях: роднай мовы, дзе – "Беларуская хатка", у пакоях "Спадчына", "Радзіма", "Прыгажосць", "Дом" (школьны сямейны клуб). І, галоўнае, квітнеюць радасцю роднага слова, паветра.

Мы вяртаемся ў Падсвілле. Зноў вязе нас спадар Пётр. Таксама з хрызантэмамі і юргіннямі. Падарункавымі. У гэты дзень 7-га верасня мы – у квецені.



# Жыхары Порплішчанскага сельсавета не жадаюць далучацца да Докшыцкага

■ **Кастусь Шыталь**

**У Докшыцкі райвыканкам было даслана пяць калектыўных зваротаў ад жыхароў Порплішчанскага сельсавета, якія выказваюць просьбу захаваць іх адміністрацыйную адзінку, пішa сайт райвыканкама.**

Такім чынам жыхары адрэагавалі на планы ўладаў далучыць Порплішчанскі сельсавет да Докшыцкага.

На сходах, арганізаваных райвыканкамам, у якіх удзельнічалі 682 жыхары Порплішчанскага сельсавета, большасць нібыта выказалася за аб'яднанне. Меркаваць пра настрої народа па выніках гэтых сходаў не выпадае: таемнае галасаванне не праводзілася, а публічна спрачацца з уладамі людзі баяцца.

У кожным раёне нашага рэгіёна мяркуецца скараціць па адным сельсавеце. У Глыбоцкім раёне Ломашаўскі сельсавет будзе далучаны да Празароцкага, а ў Мёрскім - Мікалаеўскі да Туркоўскага.

Аб'яднанне сельсаветаў праводзіцца дзеля скарачэння выдаткаў на ўтрыманне дзяржаўнага апарату. Ва ўмовах імклівага скарачэння колькасці вясковага насельніцтва яно ёсць лагічным крокам. У той жа час змены ўскладняць доступ вяскоўцаў да сядзібаў адміністрацыйных установаў.



**Кліменцій Кожан,** краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

# Незабыўныя гады

## Успаміны Андрэя Майсяёнка



**Акадэмік Андрэй Майсяёнак уручае падарункі дырэктарцы музея Вользе Саланінцы.** *www.arche.by*

Мае продкі па матчынай лініі праваслаўныя – веруючыя старога абраду, прыйшлі з Расіі, здаецца, з паўночна-заходняй. Шукалі яны лепшай долі (у Расіі абшчынная гаспадарка не давала магчымасці развярнуцца), шукалі і рэлігійнай свабоды. У Беларусі талерантна адносіліся да іх стараверскіх традыцый. Здаецца, пратораным шляхам былі Дзвінск, Друя, дзе главы сямей станавіліся мяшчанамі, а пазней рассяляліся па Дзісеншчыне і Падзвінні. І, судзячы па сённяшніх стараверскіх прыходах, людзей такіх, якія адрозніваюцца здаровым кансерватызмам, грунтоўнасцю, працалюбствам, дабратой, спагадлівасцю, якія жывуць у вялікай дружбе з адзінаверцамі і мясцовымі беларусамі, ды і характэрным знешнім выглядам (бароды ўсё яшчэ не зжытыя), нямала рассялілася ўздоўж маляўнічай Дзісенкі ў Шаркоўшчынскім раёне.

А мой продак з усім родам заснаваў пасяленне Марціняты (па свайму імені) у 18 км ад Шаркоўшчыны. Прозвішча іх Ротчанкавы, заўважныя на мясцовым могільніку. Мой прадзед у Марцінятах меў сыноў: Гаўрылу, Яфрэма, Фёдара і дачку Анну. Майму дзеду, Фёдару Гаўрылавічу, было цесна ў прыгожых, але балотных астраўках рачулкі Густаткі, і ён з дапамогай бацькі набыў "няўдобіцу" ў вёсцы Астаноўка (12 км ад Шаркоўшчыны), і моцна папрацаваў, каб асвоіць 12 гектараў пахаты. Узяў жонку Вассу Фёдараўну Гаршанаву з Пенты і стаў першым забудоўшчыкам будучай вёскі, а ў капітальны дом засяліліся ў 1916 годзе. Да гэтага жылі ў часовай хаціне (у "врэмянцы"), нарадзілі, як прынята было ў тыя часы, 8 дзяцей (першыя немаўляты памёрлі). Выжылі Арсеній (1900 г.н.), Ульянія (1901г.н.), Еўдакія (1906 г.н.), Марыя-Марута (1908г.н.), Ігнацій (1910г.н.), Антаніна (1913г.н.) Антаніна Фёдараўна – гэта мая маці. У лёсе нашай сям'і рашаючую ролю адыграў дзядзя Арсеній Фёдаравіч. Выключна працалюбівы і моцны гаспадар, ён умела вёў гаспадарку, расшырыў сядзібу, пасевы і сад. Ён узяў на сябе важны абавязак – вывучыць брата і сястру (Ігнацыя і Антаніну) з той умовай, каб яны не прэтэндавалі на зямельнае ўладанне па спадчыне.

Пасля пачатковай школы і рэпетытарства (і ў той час без гэтага не абысціся) яны паступілі, праўда, у розныя класы польскай дзяржаўнай гімназіі імя ксяндза Адама Пірамовіча ў Дзісне. Навучанне было платным, і плата, як і харчаванне гімназістаў, каштавала сям'і цяжкіх намаганняў. Тут Антаніне Фёдараўне прыйшлося пазнаёміцца са сваім будучым мужам і маім бацькам – Георгіем Нікіфаравічам Майсяёнкам – сынам Дзісенскага праваслаўнага Благачыннага, прыходскага святара і будаўніка царквы ў Стэфанполлі (гэта драўляная царква ў цяперашні час закінутая і разбураецца).

Пасля заканчэння гімназіі ў 1933 годзе Ігнацій Фёдаравіч і мой бацька Георгій Нікіфаравіч паступілі на юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, а ў 1934 годзе на прыродазнаўчы факультэт паступіла і Антаніна Фёдараўна. У гэтым жа годзе Георгій Нікіфаравіч з другой спробы паступіў на медыцынскі факультэт. Усе яны аказаліся ў ліку першых дамарошчаных студэнтаў-непалякаў Віленскага ўніверсітэта з Дзісеншчыны, якія паспелі закончыць універсітэт у трагічным 1939 годзе.

17 верасня 1939 года ўсё перавярнулася: разгром Польшчы, прыход Чырвонай Арміі, крах Польскай дзяржавы. Антаніна Фёдараўна, будучы ў Астаноўцы, тут жа як рускамоўная настаўніца пачала працу ў мясцовай пачатковай школе. Ігнацій Фёдаравіч аказаўся ў гэты неспакойны час у горадзе Ковелі, дзе меў віды на другую выпускніцу ўніверсітэта ўкраінскага паходжання – Соф'ю Міхайлаўну. Цяжэй усіх было бацьку, які павінен быў яшчэ атрымаць дыплом і нейкім чынам уз'яднацца з роднымі. Воляю сталінскай геапалітыкі Вільня і Віленскі край былі перададзены буржуазнай Літве, давялося праз пасольства ў Каўнасе прасіць візу на пастаяннае жыхарства ў БССР. Многія гарачыя галовы спрабавалі дабірацца ў родныя мясціны "па-суху", для большасці гэта закончылася трагічна. Так загінуў родны брат Генадзя Іванавіча Цітовіча, калі паспрабаваў самастойна дабрацца да вёскі Пятровічы, дзе настаяцелем царквы служыў іх бацька. Загінуў малады чалавек дзіўнага музычнага таленту, бліскучы рэгент, які праславіў сябе ў Віленскіх царкоўных хорах і конкурсах.

Пакуль будучая нявестка Антаніна Фёдараўна чакала свайго суджанага ў ціхай Астаноўцы, Георгій Майсяёнак не без прыгод прыбыў да бацькі – айца Нікіфара, у той час настаяцеля Галубіцкага прыходу ў Глыбоцкім раёне. Пасля некаторага перыяду недавер'я (сын папа), органы аховы здароўя прынялі маладога доктара на працу. Існуе копія дакумента, якая сведчыць, што "Майсяёнак Георгій Нікіфаравіч працаваў пры Лужэцкай бальніцы з 1 сакавіка 1940 года ў якасці ўрача". У гэты перыяд галоўным урачом працаваў выдатны доктар Усевалад Шыран і яго жонка Смольская. Маладому доктару выдзелілі паліклінічнае звяно працы і інфекцыйнае аддзяленне. Гэта супала з фарміраваннем Пліскага раёна Вілейскай вобласці і адкрыццём у Лужках раённай бальніцы ў маёнтку графа Плятэра.

Прыйшла пара абзавесціся сям'ёй, і Георгій Нікіфаравіч з благаславення бацькоў і родных з боку Ротчанкавых едзе ў Астаноўку, у Шаркоўшчыну, дзе маладыя вянчаюцца, і на роварах маладая сям'я перабіраецца ў Лужкі. Настаўніцу з радасцю сустракаюць у калектыве Лужкоўскай школы (веды настаўніцай рускай мовы не вытрымліваюць ніякай крытыкі). Тым часам, дырэктар сярэдняй школы Антон Адамавіч Ахрэмчык, упэўніўшыся ва ўніверсітэцкім узроўні педагога, прызначыў Антаніну Фёдараўну намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце. Выкладала яна біялогію, батаніку, геаграфію, дарэчы, разам з выдатным мастаком, чалавекам незвычайнага лёсу, Язэпам Нарцызавічам Драздовічам.

Ужо ў 1940 годзе праявіліся прыкметы трагічных наступстваў "светлага верасня". Пачаліся арышты, вывазы людзей, перш за ўсё заможных, працаўнікоў мясцовай адміністрацыі, лясной службы. Арыштавалі Усевалада Шырана, першага кіраўніка Лужкоўскага сельсавета, вялікага сябра КПЗБ. Як пісаў мне Максім Танк: "Шыран яшчэ са студэнцкай лаўкі быў верным і паслядоўным прыхільнікам сацыялістычнага пераўтварэння грамадства". Загінуў у першыя дні вайны 1941 года ў час эвакуацыі Беразвецкай турмы НКУС.

З пачаткам вайны наша сям'я перабралася ў Глыбокае, дзе было спакайней, і працаваў шпіталь. Гэта быў шанец чамусьці навучыцца і зарабіць на хлеб. Зарабляў бацька і сельскай медыцынскай практыкай, робячы сотні ўколаў і невялікіх хірургічных аперацый у навакольных вёсках. Пачаў працаваць у шпіталі, многаму навучыўся ў дактароў: Леўшы, Лекаха, Карпіловіча. 1 чэрвеня 1943 года ў сям'і з'явіўся першынец – сын Андрэй, а праз два месяцы Г.Н.Майсяёнак быў высланы з Глыбокага за адмову выконваць функцыі раённага ўрача (паліцэйскія і судмедэкспертныя). Без сродкаў да існавання засталіся ў Глыбокім Антаніна Фёдараўна з сынам. Дапамагалі родныя, асабліва сям'я брата свёкра – Афрыкана Нікіфаравіча. Доктара Г.Н.Майсяёнка трымалі пад паліцэйскім наглядам спачатку ў мястэчку Плісе, затым у Лужках. Тут ён і сустрэў у канцы чэрвеня 1944 года прыход Чырвонай Арміі. Але не ўсё так проста ў жыцці маладога доктара. Новы склад Глыбоцкага райаддзела аховы здароўя, у асноўным былыя калегі з універсітэта, у тым ліку Лекаха, рашылі, што Георгію Нікіфаравічу выпаў пачэсны абавязак паслужыць у Савецкай Арміі, у штрафным палку. І гэта пасля ўсяго перажытага.

Лёсу было ўгодна, што маршавая рота штрафнога палка прамаршыравала прама ў вёску Астаноўку, дзе ў доме цесця ён сустрэў не толькі ўсіх родных, але і камандаванне палка. Там разабраліся. Да таго, у Шаркоўшчынскім раёне лютаваў тыф і без доўгай цяганіны ўрач Майсяёнак Георгій Нікіфаравіч аказаўся на пасадзе Шаркоўшчынскага дзяржсанінспектара. Падтрымаў і партызанскі раённы аддзел аховы здароўя – фельчар Ячменеў. Уявіце сабе здзіўленне ўладальніка глыбоцкай кватэры Майсяёнкаў урача Лекаха, калі былы ўладальнік з'явіўся са сваімі рэчамі…

*Заканчэнне будзе.*

# Фотафакт: вуліца Вясенняя ніколі не змяняла свой назоў

Ёсць такая вуліца Максіма Горкага ў Глыбокім. Як толькі прыходзіла новая ўлада – адразу змена назову. У старажытнасці – Альгердаў Шлях, праўда, не афіцыйны, але, усё ж, – гістарычны назоў, які замацаваўся ў старадаўніх хроніках. У часы Вялікага Княства Літоўскага, калі былі два Глыбокіх – горад Глыбокае і мястэчка Глыбокае – цяперашняя вуліца М. Горкага ў тагачасным мястэчку звалася – Полацкай. Потым, калі верыць майму суседу в.п. Еўстафію Жуку, пры цару – Дзісенская, пры палякках – Генрыка Сянкевіча, пры немцах – Фрыдрыхштрасэ, пры саветах – самі ведаеце, як і цяпер. Дзіўна, але ў гады незалежнасці Беларусі – яна ўсё яшчэ носіць імя Максіма Горкага, які ніколі тут не быў і не напісаў ніводнага добрага слова аб Глыбокім! Мо й праўда, перайменуем, у – Альгердаў шлях? Альгерд жа ехаў па гэтай вуліцы з Вільні на Полацк. А якой жа дарогай ехаў Францішак Скарына з Полацка ў Вільню? Іншай жа дарогі – няма! Гэтая!

Аднак, ёсць шэраг вуліцаў у Глыбокім, якія ніколі не змянялі свайго назову. Дапусцім, такая вуліца як Чыгуначная. Іншая справа, што на розных мовах яна гучыць па-рознаму, але сэнс назову – той самы: «Железнодорожная» – да рэвалюцыі, «Колеёва» – за польскім часам, «Чыгуначная» – ад БССРаўскіх і да нашых часоў.

Не змяняла назову вуліца Шпітальная, пры паляках – Шпітальна. Засталася без зменаў вуліца Прамысловая, пры паляках – Пшэмыслова, а таксама Ясная – Ясна, Палявая – Польна, Азёрная – Езёрна, Млыновая – Млынна... Наконт апошняй, дык яна і пры немцах не змянялася – Мюленштрасэ.

Цяпер на сто адсоткаў з упэўненасцю можна сцвярджаць – вуліца Вясенняя пры саветах, таксама не змяняла свайго назову, як была Вясенняй так і засталася. Адна з нашых чытачак прадставіла на гэты конт дакументальны доказ. Наводзячы парадак на гарышчы, – знайшла нямала артэфактаў: «Апавяшчэнне аб тэрміне аплаты ўнёскаў будаўнічай пазыкі», які прыпадае на 1.IV.1937 г. і выпісаны на імя Марыі Няршэвіч. А таксама аблігацыю на 50 злотых, папяровыя польскія грошы, квіткі аплаты страхавак ад пажару. Дык вось: на знойдзеных паперах пазначаны адрас пражывання згаданай вышэй Марыі Няршэвіч – г. Глыбокае, вул. Вясенняя, 7 (Głębokie. Wiosenna 7).

Цяпер модна ствараць прыватныя музеі народнага побыту. А экспанатамі ўжо становяцца рэчы, якія яшчэ пятнаццаць гадоў таму былі ва ўжытку, напрыклад пішучыя машынкі, радыёпрыёмнікі, а на гарышчах старых хат – столькі рознага «хламу»! На добры музей – варта пакорпацца!



BANK GOSPODARSTWA KRAJOWEGO

Wilno, dnia 5.IV. 193 7.

W. P.
Nerszewiczowa Maria
Głębokie
Wiosenna 7.

KASA B.G.K. PRZYJMIE

Bez pieczęci i podpisu Kasjera nieważne!

ZAWIADOMIENIE O TERMINIE PŁATNOŚCI RATY POŻYCZKI BUDOWLANEJ

№ T/831 Reg. N-41

... z dnia 1.IV.1937 r.

Na kapitał ... 125.-
4½ % od sumy zł 3.625.- od 1.IV.37. do 1.X.37. 81.56
Koszty zawiadomienia 1.-
Razem 207,56
Ogółem 207,56

OPŁATY

**Апавяшчэнне аб тэрміне аплаты ўнёскаў будаўнічай пазыкі, які прыпадае на 1.IV.1937 г.**



W. P.
Nerszewiczowa Maria
Głębokie
Wiosenna 7.

**Фрагмент апавяшчэння (цалкам – злева).**

**Валерый Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Каб рыбалка не стала дарогай

Штотыдзень ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца артыкулы і нататкі пра факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пра асоб, якія іх здзейснілі, і пра пакаранні, вынесеных судамі за іх здзяйсненне.

Аднак на сённяшні дзень яшчэ не рэдкія выпадкі, калі грамадзяне свядома ідуць на парушэнне заканадаўства. Так, 30 траўня 2013 года на рацэ Заражанка Пастаўскага раёна каля 21 гадзіны быў затрыманы грамадзянін Масквін В.Г., які ажыццявіў здабычу рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства (трыма стаўнымі лесачнымі сеткамі). Пры гэтым ім было здабыта 6 асобін ліна, якія абышліся яму ў 3 600 000 рублёў і спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры 1 800 000 руб.

Уноч з 8 ліпеня на 9 ліпеня 2013 года працаўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з працаўнікамі Глыбоцкага аддзела дэпартаменту аховы быў затрыманы жыхар Пастаўскага раёна Мажэйка Ю.І., які ажыццявіў здабычу рыбы 4 стаўнымі лесачнымі сеткамі на воз. Мажэйкі Пастаўскага раёна, пры гэтым здабыў 15 кг. рыбы. Таксама гэтым грамадзянінам было аказана непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў інспекцыі. Працаўнікам інспекцыі прыйшлося ўжыць наручнікі і газавы балончык. У сукупнасці рыбалка каштавала грамадзяніну Мажэйка Ю.І. 5 000 000 рублёў і 3 600 000 рублёў за 15 кг. рыбы.

У апошні час усё больш становіцца рыбалоўаў-аматараў, якія займаюцца інтэнсіўнымі спосабамі рыбалоўства. Глыбоцкая міжраённая інспекцыя нагадвае, што на падставе рашэння Глыбоцкага РВК ад 26.02.2010 № 243 ажыццяўленне рыбалкі інтэнсіўнымі спосабамі на тэрыторыі Глыбоцкага раёна дазваляецца на наступных вадаёмах: воз. Алоізберг, воз.Сетаўскае, воз.Вялец, воз.Арэхаўскае, воз.Мядзвёдкаўскае, воз. Акунёўскае, воз.Вялікі.Супонец, воз.Дварэцкае, воз.Забельскае, воз.Кагальнае,воз. Вялікае, воз.Падлазнае, воз. Івесь, воз.Псуя, воз.Станульскае, воз.Мушкат, воз. Камінскае.

Правы на аматарскае рыбалоўства інтэнсіўнымі спосабамі маюць толькі рыбаловы, якія з'яўляюцца чальцамі рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў». А рыбаловам, якія займаюцца падводным паляваннем, пры сабе неабходна мець пасведчанне падводнага паляўнічага.

Пры правядзенні кантрольна-палявых мерапрыемстваў 15 верасня 2013 года працаўнікамі Глыбоцкай інспекцыі быў затрыманы жыхар Аршанскага раёна, які ажыццяўляў падводнае паляванне на воз.Мнюта Глыбоцкага раёна, на якім дадзены від рыбалкі забаронены. На парушальніка быў складзены адміністрацыйны матэрыял па арт. 15.35 ч.1, у адпаведнасці з якой парушальніку пагражае штраф у памеры ад 10 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй ці без канфіскацыі прылад здабычы.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефонах: 8-02156-2-86-70- «гарачая лінія», маб.897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.



# Законапраект аб альтэрнатыўнай службе ў Беларусі будзе ўнесены ўрадам у парламент у кастрычніку

Законапраект «Аб альтэрнатыўнай службе» будзе ўнесены ўрадам у парламент у кастрычніку 2013 года. Аб гэтым паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі Ігар Старавойтаў на анлайн-канферэнцыі, якая праходзіць на сайтах БЕЛТА і міністэрства.

Намеснік міністра адзначыў, што праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб альтэрнатыўнай службе» будзе ўнесены Саветам Міністраў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ў кастрычніку згодна з Планам падрыхтоўкі законапраектаў на 2013 год.

«У далейшым рашэнне аб абмеркаванні праекта закона будзе прымацца пры разглядзе яго парламентам», - падкрэсліў Ігар Старавойтаў.

***Алена Прус - БЕЛТА.***

# Сезон палявання на белалобую гусь і канадскую казарку адкрываецца ў Беларусі з 21 верасня

**Сезон палявання на белалобую гусь, гуменніка, шэрую гусь і канадскую казарку адкрываецца ў Беларусі з 21 верасня, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Мінлясгаса.**

Прадоўжыцца паляўнічы сезон на гэтых птушак да 8 снежня.

«Дазваляюцца розныя спосабы палявання ў светлы час сутак: ружэйны спосаб з засады, з падыходу, з прынаджваннем, з пад'езду на маламерных суднах. Пры паляванні на гусей можна выкарыстоўваць гладкаствольныя паляўнічыя стрэльбы з выкарыстаннем патронаў, начыненых шротам. Дапускаецца выкарыстанне сабак для пошуку і падачы здабытай дзічыны. Дазваляецца выкарыстоўваць сабак пэўных парод: тэр'ераў, такс, выжлаў, спаніэляў і рэтрывераў. Дазволена прымяненне маламерных суднаў без рухавікоў або з непрацуючым рухавіком», - растлумачылі ў Мінлясгасе.

Паляўнічыя гаспадаркі Мінлясгаса запрашаюць аматараў палявання на вадаплаўную дзічыну наведаць камфартабельныя комплексы.

***БЕЛТА***

# Крэдыты «Беларусбанка» на жыллё падаражэлі

**23 верасня ААТ «АСБ» Беларусбанк «павялічвае стаўкі па крэдытах на будаўніцтва і набыццё жылля на 10%, паведамляе БелаПАН.**

Спецыяліст АСБ «Беларусбанк» пацвердзіла парталу www.realt.by, што адбыліся змены ставак па крэдытах. І на сённяшні дзень крэдыт на будаўніцтва і на набыццё жылля можна атрымаць пад 38,5% (стаўка рэфінансавання плюс 15%, раней — плюс 5%). Тэрмін карыстання крэдытам складае 15 гадоў.



Пры гэтым памер выдадзенай сумы можа складаць да 75% кошту будаўніцтва (рэканструкцыі), набыцця жылога памяшкання ў межах плацежаздольнасці кліента. Акрамя таго, не так даўно былі зменены і ўмовы аб паруцы.

Зараз пры разліку сумы крэдыту магчыма ўключэнне ў сукупны даход крэдытаатрымальніка даходаў паручальнікаў — блізкіх сваякоў крэдытаатрымальніка: мужа ці жонкі, бацькоў, родных братоў (сясцёр) мужа і жонкі, дзяцей, унукаў.

Партал нагадвае, што ў сакавіку гэтага года найбуйнейшыя дзяржаўныя банкі (ААТ «АСБ «Беларусбанк», ААТ «Белаграпрамбанк», ААТ «Белінвестбанк») аднавілі крэдытаванне жылля для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, пад 16%.

Аднак ужо ў жніўні падобнае крэдытаванне было прыпынена. Некаторыя эксперты рынку выказалі здагадку, што банкі напросту вычарпалі запас сродкаў для крэдыту і прыпыненне часовае.

***Марына Носава, БелаПАН***

